Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

# ГАНДЛЁВЫ БЮЛЕТЭНЬ

НАРКАМУНУТГАНДЛЯ БССР

РЭДАКЦЫЯ І КАНТОРА

г. Менск, Дом Урада, леваекрыло, 4 паверх, комн. № 405.

Тэл. № 23-287.

№ 2 (38) | Год выдання 2-гі | 25 студзеня 1936 г. | № 2 (38)

## У НАРКАМУНУТГАНДЛІ БССР

◆ Расследваннем скаргі пакупніка ЮДОВІЧА было выяўлена, што магазінам № 51 Горспажыўсаюза (Менск) практыкавалася адкладванне тавара пакупніку пад задатак. Так было з пакупнікам ГАРДОНАМ, які, купляючы пальто ўнёс у касу магазіна толькі частку грошай і праз некаторы час астатнюю частку, між тым тавар ужо лічыўся праданым.

Лічучы такую практыку ў рабоце магазіна недапушчальнай, Наркамунутгандаль папярэдзіў заг. магазіна КАПЛАНА, што пры паўтарэнні гэтага ў далейшым да яго будуць прыняты суровыя меры спагнання. Усім кіраўнікам гандлёвых арганізацый прапанавана папярэдзіць аб гэтым усіх заг. магазінаў.

◆ Наркамунутгандаль забараніў Менскай арцелі „Чырвоны Друкар" выраб і продаж сшыткаў для малявання з прычыны дрэннай якасці тавара (неакуратная работа, непрыгодная для малявання жоўтая абвёртачная папера, сшыткі не маюць маркі арцелі).

За выпуск немаркіраванай прадукцыі кіраўніцтва арцелі прыцягваецца да судовай адказнасці.

Разам з гэтым у пастанове Наркамунутгандля і Наркомасветы адзначана, што Белбумзбыт безадказна адносіцца да справы забеспячэння вытворчасці сшыткаў для малявання высокаякаснай паперай і што гэтым самым ён груба парушае дырэктывы партыі і ўрада аб высокай якасці школьна-пісьмовых прылад.

◆ За энергічную работу па паспяховаму выкананню пастаноўленага СНК БССР і ЦК КП(б)Б плана зімовага хавання бульбы і гародніны і закваскі капусты,—загадам па Наркамунутгандлю БССР прэміраваны: Начальнік кіраўніцтва загатовак Менгорспажыўсаюза т. ГЕЛІН, дырэктар Гомельскага Плодатрэста т. КОБРЫНСКІ, старшыня Оршанскага ЦРК т. ШТАРКЕР—месячным акладам. Абвешчана падзяка і прэміраваны імяннымі гадзіннікамі загадчыкі Менскага Горунутгандля т. САФ'ЯН і Гомельскага Горунутгандля т. САЛАВЕЙ.

За датэрміновае выкананне гадавога плана таваразварота прэміраван месячным акладам кіраўнік Віцебскага ЦРК т. ПРЫШЧЭПА. На прэміраванне лепшых работнікаў Віцебскага ЦРК адпушчана 2 000 р.

◆ Для больш шырокага разгортвання гандлю падручнікамі і школьнай літаратурай—Белкультгандлю прапанавана арганізаваць у гарадох фургоны для сістэматычнага выезда работнікаў прылаўка непасрэдна ў школы, дзе праводзіць продаж падручнікаў і школьнай літаратуры.

На рынках у базарныя дні падручнікі і школьная літаратура павінны прадавацца з латкоў.

◆ У змену пастаноў Наркамунутгандля БССР № 747 і 748 ад 22/X—35 г. аб скідках па зімовых фруктах,—з 1-га студзеня 1936 г. устаноўлена скідка ў карысць гандлюючых арганізацый па зімовых мясцовых гатунках фруктах у размеры 25% з рознічных цэн, па крымскіх фруктах—у размеры 17%.

Скідка з рознічных цэн па вінаграду ўстаноўлена ў размеры 18%.

◆ Наркамунутгандаль БССР пастанавіў распаўсюдзіць для сталовых тарфяной прамысловасці БССР цэны на масавыя абеды і нормы закладкі, устаноўленыя пастановай СНК БССР № 1655 ад 15/X—35 г.

◆ За няправільнае прымяненне гандлёвай накідкі на механыя каўняры (20% замест 13%) і няправільнае ўстанаўленне адпускных цэн на механыя тавары сваёй вытворчасці пастановай Наркамунутгандля абвешчана вымова Нам. дырэктара Белмехгандля т. ЗАЙДЛІНУ.

◆ Па пастанове Наркамунутгандля БССР ліквідаваны Трэст Грамадскага Харчавання Менгорспажыўсаюза. Прадпрыемствы грамадскага харчавання трэста перададзены ў веданне Менскага трэста кафэ і рэстаранаў, а таксама фабрыцы-кухні.

◆ У сувязі з паніжэннем ставак падатку са зварота і адмены мясцовых збораў па рэстаранах, сталовых, буфетах і іншых прадпрыемствах грамадскага харчавання, Наркамунутгандаль абавязаў Трэст кафэ і рэстаранаў, Аддзел грамадскага харчавання НКУГ БССР, Начальнікаў ОРС'аў, дырэктароў чыгуначных прыстанцыйных буфетаў і рэстаранаў і прадпрыемствы грамадскага харчавання воднікаў—знізіць адпаведна рознічныя цэны на прадукты харчавання, безалкагольныя напіткі і вінаводачныя вырабы.

◆ Для лепшага абслугоўвання пакупнікоў Наркамунутгандаль прапанаваў „Гастраному" і „Бакалеі"



праводзіць гандаль запалкамі з тым, што грошы атрымлівае непасрэдна прадавец.

◆ Для распрацоўкі прапаноў па перабудове работы фабрыкі-кухні створана камісія пад старшынством Нам. Наркома Унутранага Гандля БССР т. ВЕРБА.

◆ З 11/І устаноўлены наступныя рознічныя продажныя цэны на яблыкі антонаўка, апорт і штрэйфлінг: вышэйшы гатунак—3 р. 50 к. кгр., першы гатунак—2 р. 80 к., 2-гі гатунак 2 р. 20 к., 3-ці гатунак 1 р. 80 к. кгр., не стандартныя—1 р. кгр. (цана ранейшая).

Цана не стандартных крымскіх яблык „розмарын", „кандиль" і „бумажный ранет" устаноўлена ў размеры—2 р. за кгр.

З гэтага-ж чысла рознічная продажная цана свежай капусты ўстаноўлена ў размеры 40 кап. за кгр.

◆ Пастановай НКУГ ад 10/І устаноўлены наступныя продажныя рознічныя цэны на грыбы белыя сухія: „крошка"—21 р. за кгр., „желтяк"—12 р. кгр., карэнні белых грыбоў—10 руб. кгр.

Рознічная продажная цана завазной цыбулі пырэй устаноўлена ў размеры 1 руб. за кгр.

## Арганізацыі, якія не ведаюць сваіх гандлёвых прадпрыемстваў

Некаторыя кіраўнікі гандлёвых арганізацый недаацэньваюць значэнне правільнай пастаноўкі ўчота гандлёвай сеткі. У выніку яны не ведаюць нават аб колькасці магазінаў, у сваёй сістэме. Аб гэтым сведчаць шматлікія факты прадстаўлення Наркамунутгандлю БССР супярэчачых адзін другому матэрыялаў.

Да ліку найбольш яскравых фактаў падобнага рода можна аднесці наступнае:

Пры прадстаўленні ў сакавіку м-цы 1935 г. плана разгортвання сеткі на 1935 г. Белкалёспрамсаюз вызначыў сваю сетку на 1 студзеня 1935 г. у 57 гандлёвых адзінак. У красавіку-ж м-цы 1935 г. Белкалёспрамсаюз прыводзіць ўжо іншыя даныя аб сетцы, вызначаючы яе ў 66 адзінак. У астатніх справаздачных і планавых матэрыялах Белкалёспрамсаюза за 1935 г. фігурыруюць дзве лічбы 57 і 66 адзінак.

Такое-ж жангліраванне лічбамі ў справе вызначэння колькасці наяўных магазінаў наглядаецца і па Белплодагародніне. І тут па адным матэрыялам уводзяцца на 1-е студзеня 1935 г. 20 магазінаў, а па другім—ужо толькі 15 магазінаў.

ОРС Галоўдартранса ўмудрыўся тры разы мяняць свае даныя па гандлёвай сетцы. Калі ў матэрыялах гэтага ОРС'а за сакавік м-ц 1935 г. фігурыруюць 46 адзінак па становішчу на 1/І—35 г., то ўжо ў матэрыялах за верасень м-ц прыводзяцца на той-жа перыяд 24 адзінкі, а ўжо ў матэрыялах за студзень 1936 г.—48 адзінак.

Ад усіх названых вышэй арганізацый не адстала і гандлёва-вытворчае кіраўніцтва НКУС БССР, якое прадстаўляла НКУГ БССР на працягу ўсяго 1935 г. супярэчачыя матэрыялы.

Усе гэтыя факты паказваюць на безадказныя адносіны рада арганізацый да справы прадстаўлення ўрадавым органам даных аб гандлёвай сетцы. Такія безадказныя адносіны выцякаюць у асноўным з няведання гэтымі арганізацыямі наяўных у іх магазінаў.

Неабходна раз назаўсёды палажыць канец гэтым агіднасцям з тым, каб наладзіць правільны ўчот гандлёвай сеткі. Гэта з'явіцца неабходнейшай прадпасылкай для ажыццяўлення рашэнняў партыі і ўраду ў частцы арганізацыі сапраўднага кіраўніцтва магазінам—гэтым асноўным звяном гандлю.

З. Вайсман.

# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## Множыць вопыт работы стаханаўцаў грамадскага харчавання

### Загад па Народнаму Камісарыяту Унутранага Гандля БССР

9/І—1936 г. **№ 31** г. Менск

31/ХІІ—35 г. у г. Менску на злёце стаханаўцаў грамадскага харчавання лепшыя работнікі грамадскага харчавання дзяліліся вопытам аб сваіх дасягненнях:

1. т. САБАЛЕЎСКАЯ—афіцыянтка студэнцкай залы фабрыкі-кухні, следуючы прыкладу лепшай афіцыянткі фабрыкі-кухні т. КАЎРОВАЙ, якая знаходзіцца на курорце, рапартавала аб тым, што яна ў снежні м-цы штодзённа падавала 740 блюд пры норме 340.

2. т. ШЫМАНСКІ—повар сталовай № 2 Менскага трэста кафэ і рэстаранаў—рапартаваў аб тым, што ён, ушчыльніўшы рабочы дзень на кухні і рацыяналізаваўшы работу, дабіўся, што побач з выкананнем сваіх абавязкаў, як намесніка шэфа кухні, ён адначасова выпякаў каля 500 піражкоў—пры норме асlabаненага кандзіцера 578 пірожных.

3. т. СМУШКОВІЧ—карэншчыца фабрыкі-кухні—рапартавала аб тым, што ў дзень чысціць 160 кгр. гародніны пры норме 87 кгр.

На гэтым-жа злёце быў выяўлен рад фактаў, якія сведчаць аб наяўнасці асобных скажэнняў у разгортванні стаханаўскага руху ў сталовых і рэстаранах г. Менску, у прыватнасці:

1. Разгортваючы работу па ўшчыльненню рабочага дня ў кухні і абслугоўваючага персанала сталовых і рэстаранаў, прадпрыемстваў фабрыкі-кухні і Менскага трэста кафэ і рэстаранаў т.т. РУДНІКАЎ, ВЕЛІКАСЕЛЕЦ, ЛІЧЫНСКІ, МОНЧАШ не звярнулі патрэбнай увагі на якасныя паказчыкі—смак, каларыйнасць, знадворнае афармленне блюд, больш культурнае абслугоўванне наведвальнікаў, узмацненне прытока наведвальнікаў і г. д.

2. Заработная плата ў шэрагу выпадкаў пабудавана так, што яна не стымулюе росту вытворчасці працы і палепшання якасці харчавання. У значнай частцы буфэтаў і піўных асноўнай формай заработнай платы—засталася і зараз пачасовая заработная плата.

Асабліва абураючым з'яўляюцца адносіны дырэкцыі фабрыкі-кухні да стаханаўкі т. Сенькевіч. Тав. Сенькевіч—маладая работніца (1915 г. нараджэння) працуе ў крухмальным цэхе. Дзякуючы яе рацыяналізатарскім прапановам, крухмал стаў значна чысцей і лепшы, а таксама, дзякуючы ўшчыльненню рабочага дня з боку т. Сенькевіч у крухмальным цэхе патрабавалася меншая колькасць рабочых, адначасова пры большай выпрацоўцы прадукцыі.

Негледзячы на гэтыя станоўчыя вынікі, аплата т. Сенькевіч не была перабудавана і яна працягвала працаваць пачасова з акладам у 70 руб. у м-ц.

Выходзячы з вышэйпаказанага Народны Камісарыят Унутранага гандля БССР — п а с т а н а ў л я е:

1. Даручыць т.т. БАШНЕВУ, КАРНАЧОВУ і МІНЬКОВІЧУ сумесна з ЦП Саюза распрацаваць у працягу 3-х дзён праект пастановы Наркамунутгандля БССР аб перабудове заработнай платы, у адпаведнасці з загадам Наркома Ўнутранага Гандля СССР т. ВЕЙЦЭРА па гэтым пытанні.

2. Прадвырашыць пытанне аб скліканні 21/І-36 г. Усебеларускай нарады стаханаўцаў выдатнікаў грамадскага харчавання сістэмы Наркамунутгандля БССР.

Даручыць т. ВЕРБА сумесна з т. БОГАРАД канчаткова вырашыць усе пытанні арганізацыі гэтай нарады, узгадніўшы скліканне нарады з дырэктыўнымі органамі.

3. Абавязаць кіраўнікоў грамадскага харчавання сістэмы Наркамунутгандля БССР разгарнуць падрыхтоўчую работу па скліканню гэтай нарады, арганізуючы работнікаў на павышэнне вытворчасці працы, палепшанне якасці харчавання і абслугоўвання сталуючыхся,ператварэнне кожнай сталовай і буфета ў рэнтабельнае прадпрыемства.

4. Прыняць да ведама заяву тав. КАРНАЧОВА, што ім будуць прыцягнуты да адказнасці віноўныя ў неправільным устанаўленні заработнай платы стаханаўкі т. Сенькевіч.

5. Абавязаць т. РУДНІКАВА перагледзець заработную плату тав. Сенькевіч, устанавіўшы ёй такую сістэму аплаты, якая-б заахвочвала павышэнне вытворчасці і яе працы і выпрацоўку крухмала лепшай якасці.

6. Прэміраваць повара сталовай № 2 трэста кафэ і рэстаранаў т. ШЫМАНСКАГА імянымі гадзіннікамі і патэфонам.

7. Выдатніцу фабрыкі-кухні т. СМУШКОВІЧ прэміраваць пальто.

8. Выдатніцу фабрыкі-кухні т. САБАЛЕЎСКУЮ прэміраваць імянымі гадзіннікамі.

9. Улічваючы цяжкія жыллёвыя ўмовы рада стаханаўцаў работнікаў фабрыкі-кухні, дазволіць дырэктару фабрыкі-кухні выдаткаваць 2 000 руб. з сродкаў фабрыкі на абсталяванне інтэрната.

10. Абавязаць усіх дырэктароў прадпрыемстваў грамадскага харчавання і трэстаў самым уважлівым чынам аднесціся да праяўленай ініцыятывы з боку кожнага работніка грамадскага харчавання заахвочваючы і дапамагаючы актыўнай іх рабоце за аўладанне тэхнікай гандля і разгортванне стаханаўскага руху сярод работнікаў грамадскага харчавання.

Нарком Унутранага Гандля БССР **Н. Гурэвіч.**

---

## Сурова прытрымлівацца ўстаноўленых норм водпуска тавараў у адны рукі

### Загад па Народнаму Камісарыяту Ўнутранага Гандля БССР

5/1—1936 г. **№ 6** г. Менск

Не гледзячы на апублікаваную пастанову СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 25/IX—35 г., аб нормах водпуска тавараў у адны рукі і ў адпаведнасці з гэтым—пастановы Наркамунутгандля БССР ад 26/XI № 877, якая абавязвае гандлёвыя арганізацыі давесці да кожнага работніка магазіна ўстаноўленыя нормы водпуска і сурова прытрымлівацца апошніх,—праверкай Дзяржаўнай Гандлёвай Інспекцыяй у шэрагу магазінаў выяўлены грубыя парушэнні:

а) Па Горспажыўсаюзу ў магазінах №№ 24, 32, 82 і 31 перавышаны нормы водпуска ў адны рукі: па селядцам замест 1 кгр. адпускалі 2 кгр., па хлебу замест 2 кгр. адпускалі 5 кгр.

б) Па Менхарчгандлю ў магазінах №№ 59, 29, 52 і 19 перавышаны нормы водпуска:

| | Норма водпуска | Адпускалі ў адны рукі |
|---|---|---|
| Селядцы . . . . . . | 1 кгр. | 2—3 кгр. |
| Крупа . . . . . . | 2 „ | 3 „ |
| Маргарын . . . . . . | 0,5 „ | 1,5 „ |
| Хлеба . . . . . . | 2 „ | 5,0 „ |

в) Па Рыбзбыту, ларок № 7 перавысіў норму водпуска селядцоў замест 1 кгр, 3 кгр.; па магазіну № 1 НКУС: маргарына замест нормы водпуска ў адны рукі 500 гр.—адпускалі 1,5 кгр.

З а г а д в а ю.

1. За парушэнне ўстаноўленых норм водпуска тавараў у адны рукі, у адпаведнасці з пастановай СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 25/IX—35 г. і неаднаразовымі рашэннямі Наркамунутгандля БССР, у т. л. пастановай № 877 ад 26/XI—35 г. дзе прапанавалася кіраўнікам гандлюючых арганізацый давесці гэтыя нормы водпуска да кожнага работніка магазіна, ларка,—Кіраўніку Горспажыўсаюза т. КРЭЙНІНУ і Кіраўніку Белхарчгандля т. ЦІМЕНКА—пастанавіць на від.

2. Прапанаваць т.т. КРЭЙНІНУ і ЦІМЕНКА на канкрэтных вінаватых у абследаваных магазінах—заг. магаў налажыць суровае адміністрацыйнае спагнанне і аб прынятых мерах далажыць мне.

3. У другі раз прапанаваць усім кіраўнікам гандлюючых арганізацый неадкладна давесці да кожнага работніка магазіна ўстаноўленыя нормы водпуска прадуктаў у адны рукі і папярэдзіць, што калі гэта імі не будзе праведзена і паўторнае абследванне выявіць парушэнні—мною будуць прыняты самыя суровыя меры спагнання.

Нарком Унутранага Гандля БССР **Н. Гурэвіч**

# Прыкладны асартыментны мінімум для харчовых магазінаў

## ПАСТАНОВА

### па Народнаму Камісарыяту Ўнутранага Гандля БССР

8 студзеня 1936 г. **№ 22** г. Менск

У мэтах палепшання абслугоўвання спажыўцоў і забеспячэння ў харчовых магазінах сталага асартымента прадтавараў, Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР пастанаўляе:

1. Прыкладзены асартыментны мінімум для харчовых магазінаў у рознічнай сетцы, з лікам рабочых месц 2 і больш—зацвердзіць.

2. Абавязаць усе гандлюючыя арганізацыі, пад адказнасць кіраўнікоў, прыняць неабходныя меры, забяспечваючыя сталую наяўнасць у магазінах усяго асартымента тавараў, пералічанага ў асартыментным мінімуме.

3. Да 15/I—36 г. у кожным магазіне вывесіць табліцы, забяспечыўшы ўсе магазіны неабходнымі таварамі, указанымі ў асартыментным мінімуме.

4. Прапанаваць Горунутгандлям, разам з гандлюючымі арганізацыямі распрацаваць асартыментны мінімум для харчовага магазіна с адным рабочым месцам.

Не пазней 13/I—36 г. прадставіць свае меркаванні ў Наркамунутгандаль БССР.

5. Даручыць Дзярж. Гандлёвай Інспекцыі—пачаць з 15/I—36 г. праверку асартыментнага мінімума ў магазінах і аб усіх выпадках парушэння дакладваць мне.

Нарком Унутранага Гандля БССР **Н. Гурэвіч.**

## Асартыментны мінімум для харчовых магазінаў гарадской рознічнай сеткі

**(Для магазінаў з адным рабочым месцам)**

1. Сахар колаты (кускавы).
2. „ пілены (насыпны).
3. Пясок.
4. Чай—напітак.
5. Кофе—сурагат.
6. Талакно.
7. Мука пшанічная 75%.
8. Крупа грэчневая (ядрыца).
9. „ перловая.
10. Макаронныя вырабы.
11. Мука бульбяная—крухмал.
12. Пранікі розныя.
13. Пячэнне (у пачках і развес).
14. Карамель.
15. Монпасье.
16. Мармелад.
17. Пасціла.
18. Запалкі.
19. Мыла гаспадарчае 40%, 50%.
20. Мыла туалетнае.
21. Сода для сціркі бялізны.
22. Сінька для бялізны.
23. Свечы.
24. Уксусная эсенцыя.
25. Соль сталовая.
26. Сода піцевая Бікор.
27. Уксус.
28. Дрожджы.
29. Ліст лаўровы.
30. Перац душысты.
31. Павідла ў банках.
32. Варэнне.
33. Тамат-пюрэ.
34. Кансервы гароднія.
35. Водка.
36. Капуста квашаная.

## Асартыментны мінімум для харчовага магазіна рознічнай гарадской сеткі

**(Для магазінаў з лікам рабочых месц 2 і больш)**

1. Сахар колаты (кускавы).
2. „ пілены (насыпны).
3. Пясок.
4. Чай натуральны I, II, III гатунка.
5. „ напітак.
6. Кофе—сурагат.
7. Цыкорый молаты.
8. Талакно.
9. Геркулес.
10. Мука жытняя 95%
11. „ „ 85 „
12. „ „ 75 „
13. „ „ 30 „
14. Крупа грэчневая (ядрыца).
15. „ манная.
16. „ перловая.
17. „ ячневая.
18. Рыс I і II гатунка.
19. Макаронныя вырабы.
20. Мука бульбяная.
21. Пранікі розныя.
22. Пячэнне (у пачк. і развес.).
23. Карамель.
24. Монпасье.
25. Мармелад.
26. Пасціла.
27. Запалкі.
28. Мыла гаспад. 40%, 50%.
29. Мыла туалетнае.
30. Сода для сціркі бялізны.
31. Сінька для бялізны.
32. Свечы.
33. Гарчыца гатовая.
34. Гарчыца ў пачках.
35. Уксусная эсенцыя.
36. Соль сталовая.
37. Сода піцевая Бікор.
38. Уксус.
39. Дрожджы.
40. Ліст лаўровы.
41. Перац душысты.
42. Ванілін.
43. Павідла.
44. Варэнне.
45. Сухія фрукты.
46. Кампот у банках.
47. Грыбы сухія.
48. Тамат-пюрэ.
49. Сыры.
50. Каўбаса—вараная*).
51. „ цвёрдая капчоная*).
52. Кансервы мясныя.
53. „ рыбныя.
54. „ гароднія.
55. Водка.
56. Віно белае.
57. „ чырвонае.
58. „ дэсертнае.
59. „ салодкае моцнае.
60. Яйкі.
61. Рыба салёная*).
62. Маргарын.
63. Махорка.
64. Капуста квашаная.

*) Каўбаснымі вырабамі, рыбай салёнай гандлюе толькі тая сетка, якая зацверджана.

# Вынікі пераацэнкі промтавараў на 1 студзеня

## Пастанова Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР

8 студзеня 1936 г. **№ 24** г. Менск

Праведзенай праверкай Дзяржаўнай Гандлёвай Інспекцыяй правільнасці і своечасовасці пераацэнкі на 1/I—36 г. промтавараў нармальнага фонда (тканей б/п, льняных і марлі, абутку і швейных вырабаў) у адзіныя рознічныя цэны, устаноўлена:

1. Промтавары нармальнага фонда не былі пераацэнены па Менскай канторы ТПУ НКУС (Нач. канторы т. Грынблат), прычым 5/I—36 г. тавары (галошы, абутак, швейныя вырабы) прадаваліся магазінам па старых продажных цэнах. Тав. ГРЫНБЛАТ пастанову НКУГ аб пераацэнцы ведаў (атрымаў распараджэнне ТПУ НКУС БССР ад 30/XII—35 г.), але не давёў яе да магазінаў.

2. Не пераацэнены тавары нармальнага фонда па Менскай базе Белдзяржснаба, а Беларуская кантора Белдзяржснабзбыт паведаміла сваім аддзяленням толькі 5/I г. г. (тэлеграфнае распараджэнне аб пераацэнцы Беларуская кантора атрымала ад В/О саюзснабзбыта—31/XII—35 г.).

3. Рад арганізацый (Менская к-ра Ваенгандлю, ОРС імя КАГАНОВІЧА, Белкамунснаб, Спецснаб) тавары, падлягаючыя пераацэнцы на 1/I—36 г. узялі на ўчот, але такавыя не пераацанілі з-за неатрымання ад Горунутгандля дакладных установак на ўстанаўленне новых цэн і тавары да гэтага часу із'яты з продажу.

Выходзячы з вышэйпаказанага, Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР пастанаўляе:

1. За невыкананне Начальнікам Менскай канторы ТПУ НКУС т. Грынблатам пастановы аб пераацэнцы промтавараў—абвясціць яму суровую вымову з папярэджаннем, з занясеннем у паслужбовы спісак.

2. Паведаміць В/О Саюзснабзбыт аб спазненні Бел. канторай з рассылкай сваім аддзяленням дырэктывы аб пераацэнцы, у выніку чаго па сістэме Белдзяржснабзбыт пераацэнка праведзена несвоечасова.

3. Указаць Горунутгандлю тав. САФ'ЯНУ на дрэнную арганізацыю па г. Менску пераацэнкі на I/I—36 г. промтавараў нармальнага фонда, з прычыны чаго, тавары, падлягаючыя пераацэнцы, часова із'яты з продажу з-за неўстанаўлення новых цэн. Лічыць такое з'явішча зусім недапушчальным і папярэдзіць т. САФ'ЯНА і ўсе Горрайунутгандлі, што за несвоечасовую і дрэнную арганізацыю пераацэнкі будуць прыняты да іх суровыя меры.

4. Прапанаваць групе рэгулявання цэн даць неадкладна дакладную ўстаноўку ўсім арганізацыям аб стварэнні адзіных рознічных цэн, а Горрайунутгандлям і Дзярж. Гандл. Інспекцыі праверыць правільнасць праведзенай пераацэнкі па ўсіх гандлюючых арганізацыях.

Нарком Унутранага Гандля БССР **Н. Гурэвіч.**

---

# Парадак гандлю запалкамі

## Пастанова Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР

3/I—36 г. **№ 9** г. Менск

У выкананне пастановы СПА ад 20/XII—35 г. за № 767 і распараджэнняў НКУГ СССР т. Вейцэра за №№ 15417 і 15421,—Народны Камісарыят Унутранага Гандля пастанаўляе:

1. У адпаведнасці з паказанай пастановай СПА № 767, удасканаліць пастанову НКУГ БССР ад 2/XII—35 г. № 893 аб рэалізацыі запалак, устанавіўшы, што гандаль запалкамі праводзіцца ва ўсіх гандлюючых прадпрыемствах, уключаючы табачныя кіёскі, латкі, сталовыя, піўныя, кафэ, буфеты рэстаранаў і вакзалаў, а таксама промтаварныя і продтаварныя магазіны і палаткі (за выключэннем спецыялізаванай сеткі: мясной, рыбнай, хлебнай, малочнай, плодагародніннай і фруктовай).

2. Прапанаваць Белкаапсаюзу, Белгандлю, Белхарчгандлю, Гастраному, Бакалеі, Менгорспажыўсаюзу, Табакгандлю, Белкаапінсаюзу і ОРС'ам, а таксама Трэсту кафэ і рэстаранаў забяспечыць наяўнасць пастаяннага запаса запалак ва ўсёй нізавой рознічнай сетцы (магазінах, палатках, і г. д.) не ніжэй 15-дзённай нормы рэалізацыі.

Абавязаць Дзяржаўную Гандлёвую Інспекцыю і Горрайунутгандлі мець сістэматычны кантроль за выкананнем усімі гандлюючымі арганізацыямі паказанай вышэй пастановы СПА № 767 і пастановы НКУГ СССР ад 22/XI—35 г. № 1269.

Вінаватых у невыкананні прыцягваць да суровай адказнасці ў парадку, устаноўленым пастановай НКУГ СССР ад 23/VIII—35 г. № 823.

4. Для інфармацыі Наркамунутгандля СССР аб ходзе гандля запалкамі, устанавіць рэгулярную інфармацыю Горрайунутгандляў, а таксама рэспубліканскіх цэнтраў гандлюючых арганізацый к 3 і 18 числу кожнага месяца за прайшоўшыя 15 дзён (з 1-га па 15 і з 16 па 30-е).

Першую інфармацыю даць НКУГ БССР к 8—I гг., у якой паказаць асобна па кожнай гандлюючай сістэме: рэалізацыю за справаздачны перыяд, паступленне за гэты-ж час і астачы (колькасць скрынак), адначасова асвятляючы ўвесь ход рэалізацыі.

5. Даручыць ніжэйпаіменаваным Райунутгандлям безадкладна праверыць выкананне адгрузкі запалак фабрыкамі БССР па разнарадках гандлюючых арганізацый у IV-м квартале 1935 г.:

а) Імя Кірава—Барысаўскі Райунутгандаль,

б) „Везувій"—Гомельскі Райунутгандаль,

в) „Х Кастрычнік"—Рэчыцкі Райунутгандаль.

Пры выяўленні недагруза запалак, прапанаваць фабрыкам безадкладна іх адгрузіць. Аб недагрузе на 1/II—36 г.—паведаміць Наркамунутгандаль БССР не пазней 8/I—36 г.

Нарком Унутранага Гандля БССР **Н. Гурэвіч.**

## Парадак адчынення філіялаў і прадстаўніцтваў гандлюючых арганізацый

### Загад па Наркамунутгандлю БССР

7/I—1936 г. **№ 8** г. Менск

1. У адпаведнасці з пастановай СНК СССР „Аб парадку адчынення і рэгістрацыі філіялаў і прадстаўніцтваў гаспадарчых арганізацый і прадпрыемстваў“ ад 9/XII—35 г. і загада Наркамунутгандля СССР № 2061 ад 25/XII—35 г.,—устанаўліваю наступны парадак адчынення філіялаў і прадстаўніцтваў гаспадарчых гандлюючых арганізацый і прадпрыемстваў сістэмы Наркамунутгандля:

а) Адчыненне філіялаў, прадстаўніцтваў, кантор і аддзяленняў рэспубліканскіх арганізацый сістэмы Наркамунутгандля БССР на тэрыторыі БССР можа праводзіцца з санкцыі Совета Народных Камісараў БССР, выключна па маіх загадах;

б) Адчыненне філіялаў прадстаўніцтваў гаспадарчых і гандлюючых рэспубліканскіх арганізацый і прадпрыемстваў сістэмы Наркамунутгандля БССР на тэрыторыі іншых саюзных рэспублік—праводзіцца па загаду Наркамунутгандля СССР, па прадстаўленню Наркамунутгандля БССР.

2. Абавязаць усіх кіраўнікоў рэспубліканскіх гандлюючых арганізацый сістэмы Наркамунутгандля БССР забяспечыць у адпаведнасці з пастановай СНК СССР і загадам НКУГ СССР.

а) Атрыманне дазволу на існаванне наяўных зараз філіялаў і прадстаўніцтваў у адпаведнасці з п.1;

б) Рэгістрацыю ўсіх адзначаных філіялаў і прадстаўніцтваў у мясцовых фінансавых органах па месцу знаходжання гэтых філіялаў і прадстаўніцтваў, згодна арт. 2 пастановы СНК ад 9/XII—35 г. „Аб парадку адчынення і рэгістрацыі філіялаў і прадстаўніцтваў гаспадарчых арганізацый і прадпрыемстваў“.

Нарком Унутранага Гандля БССР **Н. Гурэвіч.**

## Папярэдзіць псаванне хаваемай бульбы

### Загад па Наркамунутгандлю БССР

7/I—1936 г. **№ 10** г. Менск

1. У мэтах недапушчэння псавання бульбы, закладзенай на зімовае хаванне,—асабіста загадчыкам Горунутгандляў, упаўнаважаных Наркамунутгандля па ЦРК, дырэктарам кантор Белхарчгандля і Белпладагароднінагандля, начальнікам кантор Ваенгандля і Гандлёва-вытворчаму кіраўніцтву НКУС і начальнікам ОРС'аў на працягу 10 дзён правесці наступнае:

а) Па кожнай гандлюючай арганізацыі вызначыць асоб, адказных за хаванне бульбы;

б) З прыцягненнем грамадскіх арганізацый правесці праверку якасці хаваемай бульбы і пастаноўкі ўсёй гэтай справы;

в) Шляхам арганізацыі спецыяльных камісій устанавіць тэрміны годнасці закладзенай на зімовае хаванне бульбы, забяспечыўшы першачарговую рэалізацыю бульбы каротка-тэрміновага хавання.

2. Звярачваю ўвагу загадчыкаў Горунутгандляў і кіраўнікоў гандлюючых арганізацый на ўсю сур'ёзнасць гэтага пытання і на неабходнасць аддаць максімум увагі гэтай справе.

3. Аб выніках праверкі становішча хавання бульбы, вызначэння якасці хаваемай бульбы і аб прынятых канкрэтных мерах па гэтаму пытанню—паведаміць Наркамунутгандаль не пазней 17/I—36 г.

4. Абавязаць т. ФЕЙГІНА (Прададдзел) прасачыць за выкананнем гэтага загада і аб выніках далажыць мне не пазней 19/I—36 г.

Народны Камісар Унутранага Гандля БССР

**Н. Гурэвіч.**

## Тэрміны хавання апраўдальных дакументаў у магазінах

### Пастанова Наркамунутгандля Саюза ССР

31-га снежня 1935 г. **№ 1480** г. Масква

Устанавіць тэрміны хавання апраўдальных гандлёвых дакументаў і копій з гэткіх у падсправаздачных гандлёвых прадпрыемствах дзяржаўнага гандлю, згодна прыкладаемага пераліку:

| № № п/ч. | Назва дакументаў | Тэрміны хавання |
|---|---|---|
| | **1. Дакументы таварныя:** | |
| 1. | Копіі таварных справаздач з маючыміся копіямі апраўдальных дакументаў (актаў інвентарызацыі, актаў на пераацэнку тавараў, актаў па прыёмцы тавараў, выдатковых накладных, трансфертаў, фактур і г. д.). | Хаваюцца не менш аднаго года з моманта зацверджання таварнай справаздачы. |
| 2. | Таварныя чэкі на рознічны продаж. | Хаваюцца ў матэрыяльна-адказных асоб на працягу 3-х мес. пасля інвентарызацыі, а ў выпадку выкрыцця недахопу—хаваюцца да сканчэння вытворчасці па справе. |
| | **2. Дакументы касавыя.** | |
| 3. | Копіі касавых справаздач з дадаткам звестак аб выручцы. | Хаваюцца не менш 1 года з моманта зацверджання касавай справаздачы. |
| 4. | Касавыя чэкі на рознічны продаж. | Хаваюцца ў матэрыяльна-адказных асоб на працягу 3 м. пасля інвентарызацыі, а ў выпадку выкрыцця недахопу—хаваюцца да сканчэння вытворчасці па справе. |
| 5. | Кантрольная касавая лента. | Хаваецца ў асобы, знімаючай паказанні шчотчыка (заг. маг. або заг. секцыяй у працягу месяца пасля інвентарызацыі). |

Увага. Усе пералічаныя дакументы пасля сканчэння тэрмінаў хавання знішчаюцца шляхам спальвання або здачы на ўціль-завод, аб чым складаюцца акты камісіяй, вызначаемай кіраўніком гандлёвага прадпрыемства.

Народны Камісар Унутранага Гандля Саюза ССР **Вейцэр.**

# Работа магазінаў „Бакалеі“ павінна быць палепшана

## ПАСТАНОВА

### Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР

8/I—1936 г. **№ 23** г. Менск

Праведзеным у снежні 1935 г. Дзяржаўнай Гандлёвай Інспекцыяй абследваннем сеткі „Белбакалеі“ у Менску (маг. № 1 і ларок) і ў Гомелі (маг. № 2) устаноўлен шэраг яўна недапушчальных фактаў парушэння правіл і норм гандля.

Адначасова ўстаноўлена, што па маг. № 1 на 26 работнікаў ёсць усяго 12 працоўных спісаў, а па маг. № 2 (Гомель) на 21 работнік ёсць усяго 5 працоўных спісаў.

Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР пастанаўляе:

1. Прыняць да ведама паведамленне Ўпаўнаважанага Дзяржаўнай Гандлёвай Інспекцыі аб тым, што ім накладзены спагнанні на работнікаў магазінаў „Бакалеі“ за выяўленые парушэнні правіл і норм гандлю і прапанована знішчыць выяўленыя недахопы.

2. Прапанаваць дырэктару „Белбакалеі“ т. Каштальянаву і загадчыкам магазінаў неадкладна выканаць пастанову Ўпаўнаважанага Дзяржаўнай Гандлёвай Інспекцыі і паведаміць аб прынятых мерах.

3. Адзначыць, што дырэктар „Белбакалеі“ т. Каштальянаў не справіўся з ускладзенымі на яго абавязкамі, не арганізаваў гандаль у магазінах на ўзроўні запросаў культурнага гандлю, а таксама дапусціў прыём на работу работнікаў без працоўных спісаў.

4. Прыняць да ведама заяву загадчыка маг. № 1 у Менску т. Рэзніка аб тым, што ім будзе забяспечана:

а) засцякленне дзвярэй магазіна не пазней 9/I г.г.;

б) будзе знішчана лішняя трата электраэнергіі з 8/I г.г.;

в) будзе забяспечана чыстата ў магазіне і своечасовая ўборка, а таксама асабістая гігіена работнікаў.

5. Прымацаваць на ўвесь 1-шы квартал да маг. № 1 „Бакалеі“ т. Барташука, які павінен сістэматычна праводзіць праверку работы магазіна і аб усіх недахопах дакладваць мне.

6. Абавязаць т.т. Кагана і Барташука неадкладна праінструктаваць дырэктара магазіна № 1 Рэзніка аб парадку і правілах афармлення працоўных спісаў і найма работнікаў.

7. Абавязаць т.т. Кагана і Барташука сёння-ж склікаць сход работнікаў маг. № 1 „Белбакалеі“, на якім заслухаць вынікі абследвання.

8. Папярэдзіць загадчыкаў магазінамі „Белбакалеі“ аб тым, што калі на працягу бліжэйшага м-ца не будуць прыняты рашучыя меры па палепшанню работы магазінаў, поўнаму ўпарадкаванню і прывядзенню магазінаў, ва ўзорны выгляд,—да вінаватых будуць прыняты суровыя меры спагнання.

9. Прапанаваць дырэктару маг. № 1 т. Рэзніку спыніць у ларку гандаль маслам, маргарынам і капчонасцямі.

Нарком Унутранага Гандля БССР **Н. Гурэвіч.**

---

# Інструкцыя па ўчоту калгаснага гандля

## I. Учот сельска-гаспадарчых прадуктаў

1. Учот прывоза с.-г. прадуктаў і прыгона жывёлы на рынкі, базары і кірмашы праводзіцца па гарадох і раённых цэнтрах БССР у адпаведнасці з пастановай Наркамунутгандля ад 26-XII—1935 г., за № 951, з разлікам найбольш поўнага ахопа гэтага прывоза і прыгона як у, так званыя, базарныя дні, так і ў астатнія—небазарныя.

2. Учоту належыць увесь прывоз за даны дзень пры абавязковым уключэнні 31 тавара, паказанага ў номенклатуры бланка ўчота.

3. Работа ўчотчыка абавязкова павінна пачынацца раніцою і заканчвацца не раней, чым спыняецца прывоз прадуктаў на базар.

4. Першапачатковы запіс колькасці ўлічваемых тавараў праводзіцца ўчотчыкам у спецыяльнай, або запісной кніжцы ў тых мерах, у якіх яны былі ўлічаны (пуды, бутылкі, бідоны і г. д.) і пераводзяцца на ўстаноўленыя меры ў наступных суадносінах:

1 пуд . . . . . . . . . 0,10 цнтн., 16 кгр.;
1 футт . . . . . . . . 0,41 кгр.;
1 аршын . . . . . . . 0,71 мет.;
1 куб. см. . . . . . . 9,71 куб. мет.;
1 вядро . . . . . . . 12,3 літра;
1 бутылка . . . . . . 0,61 „

5. Учот прывозаў с.-г. прадуктаў і прыгону жывёлы праводзіцца паасобна па прывозах калгасаў і паасобна па прывозах калгаснікаў і аднаасобнікаў.

Увага. Рэалізацыя с.-г. прадуктаў з магазінаў і ларкоў Дзяржгандля і кааперацыі, размешчаных на базарах, ні ў якім разе не ўлічваецца разам з вясковым прывозам.

6. Учот праводзіцца інспектарамі калгаснага гандля (па тых гарадох, дзе яны ўведзены ў склад работнікаў гарадскіх аддзелаў унутранага гандля) разам з адміністрацыяй базараў, а дзе інспектароў няма—сіламі і сродкамі адміністрацыі базараў пад наглядам і кіраўніцтвам Гор. Райунутгандляў і ў кантакту з інспектарамі наргасуліка.

7. Учот праводзіцца на падставе асабістага ўражання ўчотчыка (у адносінах колькасці), а таксама паводле:

а) максімальнага скарыстання справаздачнасці па базарнаму звароту—квіткоў разавага збора, даных комунальных вагаў, кантрольных пунктаў па мясных і малочных прадуктах і інш.;

б) фактур накладных і інш. дакументаў, якімі суправаджаюцца прывозы калгасаў;

в) іншых практычных метадаў, але з улікам, каб яны не рабілі адмоўнага ўражання на псіхалогію калгасніка і аднаасобніка (забараняецца запіс прозвішчаў, вёскі і іншых выпадкаў безтактнага падыхода).

8. Вынікі штодзённага ўчота перадаюцца ўчотчыкам Гор. Райунутгандлю і прадстаўляюцца на адпаведным бланку.

9. За кожную дэкаду даныя ўчота суміруюцца і не пазней 1, 11 і 21 чысла кожнага м-ца адсылаюцца хуткай поштай Аддзелу арганізацыі гандлёвай сеткі і рэгуліравання цэн Наркамунутгандля БССР (Дом Урада, пак. № 407).

Увага. Звесткі па ўчоту на кірмашах і спецыяльна арганізаваных базарах складаюцца і адпраўляюцца абавязкова паасобна за кожны базар або кірмаш разам з падрабязным аглядам.

10. Гор. Райунутгандлі адначасова са звесткамі аб учоту прывоза на базары с.-г. прадуктаў, дасылаюць зводку сустрэчнага гандля паасобна па гандлюючых сістэмах (кааперацыя, дзяржгандаль, арцелі, ОРС'ы, БАКТ „ГИЗ" і г. д.) за адпаведны тэрмін—за дэкаду, паасобны спецыяльны базар, кірмаш і г. д.

Увага. 1. Да сустрэчнага гандля ўключаюцца звароты па магазінах і ларках, размешчаных толькі на базары, а не наогул па гораду.

2. Дэцэнтралізаваныя нарыхтоўкі паказваюцца паасобна з пералічэннем арганізацый і колькасці нарыхтаваных прадуктаў.

11. Работнікі па ўчоту павінны падбірацца выключна в ліку добра праверанага совецкага актыва.

12. Звесткі па ўчоту прывоза с.-г. прадуктаў прадстаўляюцца акрамя натуральнага, таксама і ў грашовым выразе ў адпаведных цэнах на дзень учота.

## II. Учот базарных цэн

Па тых-жа гарадох, дзе праводзіцца ўчот прывоза, адначасова праводзіцца і ўчот руху базарных цэн.

13. Учот базарных цэн на с.-г. прадукты праводзіцца непасрэдна на рынку, базары ў час найбольш ажыўленага гандля, прычым рэгіструецца цана фактычнай продажы і найбольш пануючая на працягу базара.

Увага. Цэны калгасаў паказваюцца паасобна ад цэн, па якіх прадаюць калгаснікі і аднаасобнікі.

14. Гор. Райунутгандлі праводзяць учот базарных цэн за кожны базар і прадстаўляюць Аддзелу арганізацыі гандлёвай сеткі і рэгуліравання цэн звесткі па ўстаноўленай форме 1, 11, 21 чысла кожнага месяца за мінулую дэкаду.

15. Акрамя пералічаных у бланку, неабходна ўключаць і іншыя прадукты, якія ў залежнасці ад сезона, або мясцовых эканамічных умоў завозяцца на базар.

## III. Характарыстыка становішча калгаснага базарнага гандля

16. Адначасова са звесткамі па ўчоту прывоза с.-г. прадуктаў і руху рыначных цэн, Гор. Райунутгандлі дасылаюць кароткую характарыстыку становішча калгаснага базарнага гандля за мінулую дэкаду.

17. Характарыстыка павінна адлюстроўваць наступныя моманты:

а) Ступень удзела ў прывозе калгасаў (пералічыць колькі і якія калгасы і якой прадукцыі прывезлі; адзначыць калгасы, якія рэгулярна прывозяць сваю прадукцыю; якая праведзена адміністрацыяй базара масава-палітычная работа па ўцягненню калгасаў да арганізаванага прывоза с.-г. прадуктаў, цэны, устаноўленыя калгасам на сваю прадукцыю і г. д.).

б) Прычыны, якія складаюць уплыў на змену цаны на той ці іншы прадукт у параўнанні з папярэднім базарам (удзел калгасаў, уплыў колькаснай масы таго ці іншага прадукта на базары, у звязку з сезоннасцю, надвор'е, бездарожжа, пасяўная і ўборачная кампаніі і інш.).

в) Сустрэчны гандаль прам. і прадтаварамі і загрузка магазінаў, асартымент і яго адпавяданне запатрабаванням калгасаў і калгаснікаў, адносіны прадаўцоў да пакупнікоў і г. д.

г) Перакупка і спекуляцыя: канкрэтныя меры барацьбы Р.-С. Міліцыі, садзейнічанне адміністрацыі базараў у высвятленні спекулянтаў і перакупшчыкаў і г. д.

д) Асаблівую ўвагу неабходна звярнуць на прывоз збожжавых, мукі рознай і круп, мяса, масла і малака і руху цэн на гэтыя прадукты.

18. Па спецыяльна арганізаваных базарах і кірмашах Гор. Райунутгандлі не пазней 3-х дзён пасля зачынення іх дасылаюць падрабязную характарыстыку, як у адносінах прывоза с.-г. прадуктаў, руху цэн і па сустрэчнаму гандлю, так і па падрыхтоўчай рабоце і культбытавому абслугоўванню калгаснікаў і аднаасобнікаў.

19. Адказнасць за арганізацыю ўчота, звестак прывоза с.-г. прадуктаў, руху цэн, складанню звестак па сустрэчнаму гандлю і за пастаноўку справаздачнасці ўскладаецца персанальна на Гор. Райунутгандлі.

---

НАРКАМУНУТГАНДАЛЬ БССР

Гор. Менск. Дом Урада, пак. № 407.
(Тэл. № 23-304).

## ЗВЕСТКІ

### Аб прывозе сел.-гас. прадуктаў і руху рыначных цэн на базары

У г. .................................................. за базарны

дзень .................................................. 1936 г.

| Назва прадуктаў | Аддз. пам. | Калгасы: Кольк. або вага | Калгасы: Цана | Калгаснікі і аднаасобнікі: Кольк. або вага | Калгаснікі і аднаасобнікі: Цана |
|---|---|---|---|---|---|
| Жыта | | | | | |
| Ячмень | | | | | |
| Пшаніца | | | | | |
| Мука жытняя | | | | | |
| „ пшанічная | | | | | |
| Крупы розныя | | | | | |
| Авёс | | | | | |
| Сена | | | | | |
| Вотрубі | | | | | |
| Гавядзіна | | | | | |
| Цяляціна | | | | | |
| Бараніна | | | | | |
| Свініна | | | | | |
| Сала свіное | | | | | |
| Птушка | | | | | |
| Малако | | | | | |
| Тварог | | | | | |
| Смятана | | | | | |
| Масла кароўе | | | | | |
| Яйкі курыныя | | | | | |
| Бульба | | | | | |
| Капуста | | | | | |
| Лук рэпчаты | | | | | |
| Свёкла сталовая | | | | | |
| Коні | | | | | |
| Дарос. раг. жывёла | | | | | |
| Жывёла маладняк | | | | | |
| Парасяты | | | | | |
| Авечкі | | | | | |
| ........................ | | | | | |
| ........................ | | | | | |
| ........................ | | | | | |

*Подпіс:*

Выданне Наркамунутгандля БССР—Дом Урада, 4-й паверх, пак. 405, тэл. 23-287.

Адк. рэдактар І. І. Верба. Адк. сакратар рэдакцыі В. Адлерштэйн.

Школа ФЗВ друкарні ім. Сталіна. Зак. 85. Тыраж 750 экз. Галоўлітбел № 3211.

